# КРЫВІНКА

СТУДЗЕНЬ
№ 1 (191)
2017 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




РЫНАК ПРАЦЫ

## КУДЫ ПАЙСЦІ ПРАЦАВАЦЬ?

**У базе дадзеных Дзяржаўнай службы занятасці па Бешанковіцкаму раёну на пачатак года маецца 52 вакансіі.**

14 з іх прапануюць сельгаспрадпрыемствы.Так"Бешанковіцкаму аграсервісу" патрабуюцца галоўны ветурач і галоўны заатэхнік (вышэйшая адукацыя)з заробкам у 350 рублёў, а таксама галоўны эканаміст з заробкам у 500 рублёў. Радавому заатэхніку з сярэдней спецыяльнай адукацыяй прапануюць 320 рублёў, электрыку – 250.

Унітарнае прадпрыемства "Вядзерава" гатовае заплаціць галоўнаму ветурачу і галоўнаму заатэхніку з вышэйшай адукацыяй па 500 рублёў, а вось трактарысту і аператару машыннага даення ўжо па 350.

Прадпрыемству "Свіціна ВМК" таксама патрабуецца ветурач з вышэйшай адукацыяй і заробкам 420 рублёў. Аператару па ветэрынарнай апрацоўцы жывёл прапануюць 350 рублёў.

Дзяржаўнаму прадпрыемству "ДраздыАгра" патрэбны два вадзіцелі аўтамабіля катэгорый "В" і "С" з заробкам 330 рублёў, а таксама трактарыст з заробкам 300 рублёў.

Пяць вакансій прапане новы магазін, які адчыняецца ў Бешанковічах – ПГУП "ЗападХімІнвест". Загадчыку магазіна прапануецца 400 рублёў, бухгалтару з вышэйшай адукацыяй 350, дзяжурнаму па залу з сярэдняй адукацыяй 320, прадаўцу і касіру па 300.

Мясцоваму ПМК-41 патрэбныя інжынер-механік з вышэйшай адукацыяй і заробкам 400 рублёў, майстар участка (300 руб) і электрык (280 руб).

Прадпрыемству "Літуаніялес" патрэбны дырэктар з вышэйшай адукацыяй, які б ведаў літоўскую і нямецкую мовы. Праўда, заробак яму прапануюць усяго 400 рублёў.

АТП -21 патрабуецца інжынер з вышэйшай адукацыяй (500 руб) і вадзіцелі аўтамабіля (400 руб).

На "Белкатламашы" ўжо паўгода вісіць вакансія галоўнага канструктара, якому гатовыя заплаціць 900 рублёў.

Раённаму аддзяленню МНС патрэбны ратавальнік-пажарны з агульнай сярэдняй адукацыяй і заробкам 400 рублёў.

Бешанковіцкаму лясгасу патрэбныя ляснік (280 руб) і вальшчык леса (350 руб).

"Біль-Бімба плюс" шукае швеяў з заробкам 280 рублёў.

Аддзел культуры Бешанковіцкага РВК шукае хармайстра, метадыста, харэографа з заробкам 240 рублёў, а таксама артыста ансамбля ў Вуле (120 руб).

Нарэшце РСТ (райпо) традыцыйна шукае прадавачак (350 руб) і тавараведа (340 руб).

Тэлефоны арганізацый, якія прапануюць вакансіі, можна знайсці на сайце http://gsz.gov.by

**М.Васільеў**

* * * *

*Ад Калядаў старых*
*і да новых Калядаў*
*у прыродзе няма*
*аніякага ладу.*

*Ні зімы, ні вясны –*
*толькі хмурая восень,*
*толькі вецер застаўся,*
*што нема галосіць.*

*У каго папрасіць*
*на Святыя Каляды*
*снегу трошкі*
*і трошкі, хоць жменьку, спагады?*

*Для сябе, для цябе,*
*для сяброў, для знаёмых…*
*І для цёткі вунь той,*
*што стаіць каля дома.*

*Даравання грахоў*
*для ўсіх ворагаў-тацяў,*
*для ўсіх тых, хто нажыў*
*незямныя багацці.*

*Мне ж для шчасця майго*
*за вакном хопіць зліва,*
*ды усмешкі тваёй –*
*каб памерці шчаслівым.*

**Г.Станкевіч**



НАША ЖЫЦЦЁ

## ПРАДАЮЦЦА ШКОЛЫ І ДЗІЦЯЧЫЯ САДКІ

**Нядаўна (7-га снежня 2016 года) на аўкцыёне "Віцебскаблмаёмасць" прадалі невыкарыстоўваемы двухпавярховы будынак Сініцкай сярэдняй школы з інфраструктурай ў аграгарадку Сініцы Бешанковіцкага раёна.**

Цікавасць да аб'екта праявіў адзін пакупнік, ён набыў нерухомасць па пачатковай цане, якая склала 4 базавых велічыні (84 рубля), павялічанай на 5% - гэта значыць за 88,2 рубля.

Яшчэ два будынкі Асінаўскай і Рубежскай школаў чакаюць сваёй чаргі. Будынак Асінаўскай школы невялікі, гэта, скажам, проста хата агульнай плошчай 82, 9 кв.м., якую можна набыць для пражывання.

Комплекс будынкаў Рубежскай сярэдняй школы з інфраструктурай мае агульную плошчу 2713,8 кв.м. Сама школа двухпавярховая. Тут маецца цэнтральнае ацяпленне і кацельная.

Сёлета на аукцыён будзе таксама выстаўляцца комплекс будынкаў Сініцкага дзіцячага сада з інфраструктурайагульнайплошчай934,4 кв.м. Тут таксама маецца цэнтральнае ацяпленне і кацельная.

Будынак Храпавішчанскага дзіцячага сада мае агульную плошчу 162,4 кв.м. Ён таксама будзе сёлета выстаўляцца на продаж.

Пра тое, калі будуць аб'яўленыя таргі па гэтых аб'ектах, можна даведацца з сайта "Віцебскаблмаёмасць". Абвесткі аб таргах размяшчае таксама сайт beshankovichy.by.

**А. Тутэйшы**

ІНВЕСТЫЦЫІ

## НОВАЯ БАЗА АДПАЧЫНКУ

**У Бешанковіцкім раёне непадалёку ад Крупеніна на беразе возера Бароўна пасярод хваёвага лесу рыхтуецца да адкрыцця база адпачынку «Сярэбраная крыніца».**

Некалькі гадоў таму расійскія бізнесмены вырашылі інвеставаць сродкі ў будаўніцтва сучаснай базы адпачынку на тэрыторыі былога піянерлагера. Занялося аб'ектам прыватнаепрадпрыемства«ЛАД-драйв»: дэмантавалі старыя будынкі, ўзвялі новыя, праклалі інжынерныя сеткі.

Цяпер тут сучасны комплекс. У галоўным корпусе гасцям прапануюць шэраг медыцынскіх аздараўленчых працэдур, у тым ліку лячэбныя масажы і ванны, таксама маюцца п басейн з падагрэвам і саўнай, міні-спартзала, хол-галерэя з барам, пакой адпачынку. У асобных катэджах ёсць двухузроўневыя нумары.

- Па прадастаўленню медыцынскіх паслуг "Сярэбраная крыніца" плануе супрацоўнічаць з суседам - рэабілітацыйным цэнтрам абласнога дыягнастычнага цэнтра, - распавёў дырэктар ПУП «ЛАД-драйв» Аляксей Дзякаў.

Паркавы комплекс базы - вынік сумеснай працы беларускіх і расійскіх дызайнераў-уключаеўсябепрагулачныя дарожкі ўздоўж маляўнічага возера, міні-заапарк, прыгожы фантан, утульныя альтанкі.

«Сярэбраная крыніца», размешчаная ўдалечыні ад гарадской мітусні, стане добрым месцам для спакойнага адпачынкуіаздараўленняўсіхжадаючых. Адкрыццё плануецца да мая 2017 года.

**Віцебскія весці**

## АЎКЦЫЁН ПА НАРЫХТОЎЦЫ СЛІМАКА

**13-га студзеня ў Бешанковічах адбыўся тэндэр на набыццё вінаградных слімакоў. За права закупляць малюска ў мясцовых жыхароў на працягу пяці гадоў змагаліся тры ўдзельнікі.**

Таргі завяршыліся зусім не з слімаковай хуткасцю - менш, чым за дзве хвіліны, паведаміў ў праграме Навіны «24 гадзіны» на СТВ.

Па асноўных паказчыках слімаковы бізнес рэнтабельны. Пагалоўе фермы за год пры правільным сыходзе павялічваецца ў 50-60 разоў. Маладняк дасягае таварнага выгляду за 1,5 года. Асобныя пароды вырастаюць за 6 месяцаў. Такім чынам, слімаковая ферма акупляецца за паўтара года. Пры адладжаным збыце, вядома.

Кліенты рэстарана з'ядаюць каля 10 кілаграмаў слімакоў у месяц. Зусім мізэр у параўнанні з іншымі прадуктамі. І хоць малюскі з цяжкасцю ўпісваюцца ў класічны рацыён, шэф-повар запэўнівае: беларусы палюбяць смак, падобны ці то на курыцу, ці то на грыбы.

Пастаўшчык установы - беларускі - адпраўляе слімакоў не толькі ў Мінск, але і ў французскія гарады.

Аляксандр Петрыман, шэф-повар:

Складана прывыкнуць да таго, што ты не еў у дзяцінстве. Хоць слімакі у нас усюды поўзаюць і растуць, гэты прадукт - адзін з лепшых. І ён, я ведаю, пастаўляецца ў Францыю.

У адпаведнасці з заключэннем Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі прамысловы запас вінаграднага слімака ў раёне складае больш за 11,5 тоны, гранічнадапушчальныаб'ёмканфіскацыі ў год ацэньваецца амаль у 6 тон. Пачатковы кошт права на нарыхтоўку вінаграднага слімака складае каля 500 рублёў.

Сяргей Акуневіч, першы намеснік старшыні Бешанковіцкага раёна:

Гэта і занятасць насельніцтва, і лішні заробак, і лішняя капейка. Для раёна гэтая выгада выяўляецца ў тым, што мы атрымаем грошы з аўкцыёну, і яны пойдуць у папаўненне бюджэту раёна.

Яўген Цітовіч, індывідуальны прадпрымальнік (Гродна):

Ёсць перспектывы яе вырошчваць, размнажваць. Для гэтага будзем стварацць фермерскую гаспадарку ў сябе, вырошчваць.

З даўніх часоў вінаградных слімакоў выкарыстоўвалі для ежы, прычым дэлікатэсам яны не з'яўляліся. Іх мяса было незаменна падчас пастоў, яно пажыўнае і багатае мікраэлементамі. Таксама слімакі - сыравіна для фармакалагічнай прамысловасці, з яго робяць лекі ад дыябету. Але ўсё ж больш яны славяцца як афрадызіяк і рэкамендаваны мужчынам для ўзмацнення патэнцыі.

Яшчэ адзін слімаковы трэнд - у касметалогіі. Мода на рэчыва малюска - муцін - прыйшла да нас з Азіі. Цяпер гэты кампанент актыўна ўжываюць у індустрыі прыгажосці, а крэмы на муцыновой аснове запатрабаваныя на рынку як ніколі.

Па дадзеных абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнагаасяроддзя,уміналым годзе вінаграднага слімака нарыхтоўвалі ў 16 раёнах рэгіёну. Першым быў Чашніцкі раён - падобны аўкцыён тут прайшоў яшчэ ў 2012 годзе. У Бешанковіцкім раёне права на нарыхтоўку прадалі на 5 гадоў.

**СТВ**

БЮДЖЭТ

# ЗАЦВЕРДЖАНЫ РАЁННЫ БЮДЖЭТ

**Бюджэт Бешанковіцкага раёна на 2017 год складзе 20, 2 мільёнаў рублёў. Выдаткі па праекце кансалідаванага бюджэту Бешанковіцкага раёна на 2017 год прагназуюцца ў агульнай суме 20,2 млн. рублёў, з ростам да чаканага выканання за 2016 год на 2,3%.**

Аб'ём раённага бюджэту вызначаны ў суме 19,7 млн рублёў, а аб'ём бюджэтаў сельскіх Саветаў дэпутатаў - у суме 0,5 млн рублёў.

Агульная сума даходаў мясцовага бюджэту раёна (без уліку бязвыплатных паступленняў) на 2017 год прагназуецца ў аб'ёме 10,1 млн рублёў.

Як і раней, бюджэт будзе мець сацыяльную накіраванасць - прыярытэтамі фінансавання стануць сацыяльна-значныя выдаткі, звязаныя з забеспячэннем бягучай жыццядзейнасці бюджэтных устаноў. На сацыяльную сферу ў 2017 годзе плануецца накіраваць 15,9 млн рублёў, або 78,8% ад агульнага аб'ёму бюджэту раёна.

На ўтрыманне і развіццё ўстаноў адукацыі будзе накіравана 8,7 млн рублёў (або 42,9% у структуры расходнай часткі бюджэту). Выдаткі па галіне аховы здароўя складуць суму 4,7 млн рублёў (23,1%), на ажыццяўленне сацыяльнай палітыкі - 1,4 млн рублёў (6,8%).

Вельмі нізкімі застануцца асігнаванні на фізічную культуру і спорт. Яны плануюцца ў памеры 0,26 млн рублёў, на культуру і мастацтва - у аб'ёме 0,95 млн рублёў. Гэта складзе толькі 6% у структуры расходнай часткі бюджэту.

Крыніцамі даходаў бюджэту раёна будуць з'яўляцца нашы падаткі: падаходны падатак - 45,1%, падатак на дабаўленую вартасць - 14,7%, падаткі на зямлю і нерухомасць - 11,4%, падатак на прыбытак - 9,9%, падаткі і зборы ад выручкі - 6,7%.

Даходы па бюджэце раёна на 2017 год з улікам бязвыплатных паступленняў з рэспубліканскага і абласнога бюджэтаў складуць 20,2 мільёнаў рублёў з перавышэннем над расходамі ў суме 10,0 тыс. рублёў для забеспячэння выканання абавязацельстваў па гарантыях перад банкамі. Доля ўласных даходаў складзе 50,2%, бязвыплатных паступленняў - 49,8%.

**М.Васільеў**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# ПА НАДОЯХ – НА ДРУГІМ МЕСЦЫ Ў ВОБЛАСЦІ

**За 2016 год у сярэднім на карову сельгас-прадпрыемствы Віцебшчыны надаілі 4110 кг малака (у 2015-м было 3 975 кг).**

Па словах начальніка ўпраўлення жывёлагадоўчай прадукцыі і галіновага будаўніцтва аблсельгасхарча Віктара Шабалава, прыбаўка дасягнута за кошт паляпшэння якасці кармлення і пашырэння плошчаў пад канюшыну. Немалаважнае значэнне мела больш выразная арганізацыя інтэнсіўнага раздоя навацельных кароў і пераход на новыя тэхналогіі ўтрымання жывёл.

Як і ў мінулым годзе, на першым месцы гаспадаркі Верхнядзвіншчыны - сярэдні надой на карову 5 544 кг, далей ідуць Бешанковіцкі (5 401), Віцебскі (5 197) і Аршанскі (5 062) раёны. Сярод гаспадарак найвышэйшы паказчык у СВК "Ларынаўка" Аршанскага раёна - 10 002 кг. Прычым пры такім вялікім надоі дасягнута значная прыбаўка (657 кг) адносна 2015 года.

У філіяле "Віраўлянскі" ЗП «Дзецкасельскі-Гарадок» Гарадоцкага раёна ў сярэднім ад каровы атрымалі 7 993 кг малака.

На трэцім месцы СХП «Мазалавагаз» Віцебскага раёна - 7 579 кг (334 кг да 2015 года).

У цэлым па вобласці 5 і больш тысяч кілаграм малака на карову надаілі 53 гаспадаркі, або 22%. Найбольшая колькасць такіх сельгаспрадпрыемстваў у Верхнядзвінскім (10), Полацкім (7), Аршанскім (6) раёнах.

**Віцебскія весці**

НАШЫ ЗАРОБКІ

# ОДНА ИЗ САМЫХ НИЗКИХ ЗАРПЛАТ ПО СТРАНЕ

**Только в 37-ми районах в ноябре средняя зарплата превысила 300 долларов. Пресловутые "по 500" пока получают только в Минске и Солигорском районе.**

Средняя зарплата белорусов падает уже третий месяц. В ноябре она снизилась до 370 долларов.

Но если посмотреть по отдельным районам и городам, то оказывается, что такие зарплаты получали только жители Минска, Бреста, Новополоцка и еще 4 районов — Солигорского, Минского, Речицкого и Смолевичского.

В ноябре в десятке районов, в которых получают меньше всего, снова оказалось больше всего представителей Витебской области — сразу 6. При этом зарплата в прошлом месяце выросла только в Лиозненском районе (+2,1 рубля).

Ни у одного из самых «бедных» районов получка не дотянула до 250 долларов в эквиваленте. В Шарковщинском районе она и вовсе составила 208 долларов. Это в 2,5 раза меньше, чем у жителей Солигорского района — самого зажиточного, согласно статистике.

Если в Бешенковичском районе в октябре зарплата была 462,6 рубля, то в ноябре только 459 рублей.

В ноябрьский топ-10 самых «богатых» попали те же районы, что и в октябре. Единственное изменение в рейтинге — Логойский и Светлогорский поменялись местами.

Первую строчку по-прежнему занимает Солигорский район, где в ноябре получали 1 003,4 рубля, или 517 долларов. Это на 4,7 рубля меньше, чем в среднем по Минску. Кроме минчан и жителей Солигорского района, «по 500» в Беларуси больше нигде не получают.

Во всех районах из десятки «богатых» в ноябре упали заработки по сравнению с октябрем, больше всего — в Смолевичском (минус 23,6 рубля).

Из всех районов только в 37-ми в ноябре зарабатывали больше, чем 300 долларов, — то есть только в каждом третьем.

Реальные зарплаты больше всего упали в самом «богатом» районе

Реальная зарплата, которая рассчитывается с учетом инфляции, в ноябре выросла в шести районах — Витебском (+3,2%), Лепельском (+2,2%), Стародорожском (+1,2%), Хотимском (+0,4%), Дятловском (+0,3%), Браславском (+0,1%).

А упали реальные заработки больше всего в Солигорском (-18,2%), Бобруйском (-10,8%), Ганцевичском и Шарковщинском (по -10,5%) районах.

Справка FINANCE.TUT.BY. Номинальная начисленная среднемесячная зарплата включает подоходный налог и обязательный страховой взнос работника. Взносы работодателей на социальное страхование работников не включаются в среднюю заработную плату. Средний заработок определяется специалистами Белстата делением начисленного работникам организации фонда зарплаты, включая подоходный налог и обязательный страховой взнос работника, за отчетный период на численность работников организации и на количество месяцев в периоде.

**TUT.BY**

ЗДАРЭННІ

# БУДЗІЛАЎСКАЯ ТРАГЕДЫЯ

**Жыхар г. Віцебска Грыгор'еў да свайго 21-годдзя атрымаў пасведчанне кіроўцы, абзавёўся аўтамабілем маркі «CITROEN XANTIA» і 18-га чэрвеня 2016 года прыехаў з бацькамі на гэтым аўтамабілі ў вёску Будзілава да сваякоў.**

Адпачываў у кампаніі сяброў, не абышлося і без спіртнога. Спачатку піва пасля лазні, а затым гарэлачка ў значнай дозе. У якасці кіроўцы прыцягнуў цвярозага таварыша, а калі таварыш пайшоў дахаты, каля клуба вёскі Будзілава пасадзіў на задняе сядзенне нецвярозага прыяцеля, а сам сеў за руль.

Шлях трымалі ў суседнюю вёску Вяжышча. У машыне гучна грала музыка, і з хуткасцю 100 км/гадзіну аўтамабіль памчаўся па вуліцы вёскі Будзілава, абганяючы моладзь, як вярталася з дыскатэкі.

Настрой, разагрэты спіртным, быў выдатным, стаж кіравання не склаў і года. Не дзіўна, што юны кіроўца ў нецвярозым стане не справіўся з кіраваннем аўтамабілем і выехаў на сустрэчную паласу руху, а затым у кювет, дзе пярэдняй часткай аўтамабіля здзейсніў наезд на прыдарожнае дрэва.

У выніку дарожна-транспартнага здарэння пасажыру аўтамабіля, які быў на заднім сядзенні аўтамабіля не прышпілены, былі нанесены цяжкія цялесныя пашкоджанні: закрытыя аскольчатыя пераломы 5 і 6 шыйных пазванкоў, удар і здушэнне спіннога мозгу, што пацягнула сіндром поўнага парушэння праводнасці спіннога мозгу, страту функцый цягліц верхніх і ніжніх канечнасцяў, парушэнне функцыі тазавых органаў.

Грыгор'еў здзейсніў менш цяжкае злачынства па неасцярожнасці. Ён, кіруючы крыніцай павышанай небяспекі, груба парушыў Правілы дарожнага руху. Ён сеў за руль, знаходзячыся ў моцнай ступені алкагольнага ап'янення, значна перавысіў дапушчальную хуткасць руху ў цёмны час сутак.

Грыгор'еў характарызуецца станоўча, аказвае дапамогу пацярпеламу, чым заслужыў яго прабачэнне. Суд вынес у дачыненні да Грыгор'ева абвінаваўчы прысуд, паводле якога ён пазбаўлены волі на 3 гады 6 месяцаў і будзе адбываць пакаранне ў папраўчай калоніі ва ўмовах пасялення з пазбаўленнем права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспартнымі сродкамі тэрмінам на 5 гадоў.

У выніку ДТЗ пацярпелы ў 25 гадоў стаў інвалідам 1 групы, яму трэба будзе яшчэ доўга аднаўляць здароўе. Хацелася б, каб тое, што здарылася, паслужыла добрым жыццёвым урокам асуджанаму і пацярпеламу, а таксама ўсім, хто лічыць магчымым садзіцца за руль транспартнага сродку ў стане алкагольнага ап'янення.

Намеснік пракурора Бешанковіцкага раёна малодшы саветнік юстыцыі Лешанок Э.І.

**beshenkovichi.vitebsk-region**

НАША ЖЫЦЦЁ

# ЗМЕНЫ Ў ДЭКРЭЦЕ АБ ДАРМАЕДАХ

**12-га студзеня Аляксандр Лукашэнка падпісаў дэкрэт № 1, якім уносяцца змены ў дэкрэт "Аб прадухіленні сацыяльнага ўтрыманства", паведамляе прэс-служба прэзідэнта.**

Да дармаедаў не будуць адносіць тых, хто значыцца ў спісачным складзе нацыянальнай або зборнай каманды Беларусі па відах спорту. Тым, хто праходзіць альтэрнатыўную службу, таксама не прыйдзецца плаціць падатак за няўдзел у фінансаванні дзяржаўных выдаткаў.

Беспрацоўных, якія стаяць на ўліку ў цэнтры занятасці або праходзяць навучанне па накіраванні органа па працы, занятасці і сацыяльнай абароне, не будуць адносіць да дармаедаў толькі «пры адсутнасці устаноўленых фактаў парушэння імі абавязкаў у галіне занятасці насельніцтва».

Бацькі, якія выхоўваюць дзяцей да 7 гадоў, не будуць плаціць падатак на дармаедства толькі ў тым выпадку, калі дзіця ва ўзросце ад 3 да 7 гадоў не атрымлівае дашкольную адукацыю.

Мясцовыя выканаўчыя або распарадчыя органы могуць вызваляць ад выплаты збору тых, хто знаходзіцца ў цяжкай жыццёвай сітуацыі.

Акрамя таго, перанеслі крайні тэрмін накіравання падаткавікамі паведамлення на выплату падатку на 20 студзеня гэтага года (раней - 1 лістапада мінулага года). Тэрмін выплаты збору перанеслі на 20 лютага 2017 года (раней - да 1 снежня мінулага года).

**TUT.BY**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ

# ЧАМУ «НАФТАГАЗАВАЯ ВАЙНА» НАБЫВАЕ ЗАЦЯТЫ ХАРАКТАР?

**Гледзячы па ўсім, чарговая беларуска-расейская «нафтагазавая вайна» перайшла ў вострую стадыю. Найбольш яскравымі прыкметамі гэтага стаў байкот А. Лукашэнкам самітаў ЭАЭС і АДКБ у Санкт-Пецярбургу, ягоная адмова падпісваць Мытны кодэкс саюзу, пераход кіраўніка Беларусі да звыклай канфрантацыйнай рыторыкі: «Мы нікому не дазволім зьневажаць наш народ і дзяржаву. Калі хтосьці гэтага не разумее, тады нам няпроста будзе зь імі ня тое што строіць стасункі, але і размаўляць». Ну і адразу з Масквы прайшоў жорсткі адказ: Расея яшчэ больш скараціла пастаўкі сваёй нафты Беларусі ў першым квартале.**

Як і прынята на вайне, зьявіліся ваеннапалонныя (тры арыштаваныя блогеры сайта «Рэгнум»). Праўда, Расея іх не прызнала. Паводле савецкай традыцыі сталінскіх часоў Масква вуснамі афіцыйных асобаў заявіла: у нас няма палонных, ёсьць экстрэмісты.

За часы А. Лукашэнкі Беларусь і Расея перажылі некалькі вострых міждзяржаўных канфліктаў. У 1997 годзе крызыс у двухбаковых дачыненьнях здарыўся з нагоды арышту беларускімі ўладамі карэспандэнта ОРТ Паўла Шарамета. У 2002 і 2004 гг. адбыліся канфлікты праз газавыя цэны, у апошнім выпадку Расея адключыла пастаўкі газу, што Лукашэнка ацаніў як «акт тэрарызму на высокім узроўні». На мяжы 2006-2007 гадоў разгарнулася вострая «нафтагазавая вайна» з перакрыцьцём трубаправодаў і чарговымі скандальнымі заявамі. У 2009 г. дзьве краіны перажылі «малочную вайну», тады Лукашэнка таксама байкатаваў саміт АДКБ у Маскве, нейкі час адмаўляўся падпісваць дамову аб стварэньні Калектыўных сілаў апэратыўнага рэагаваньня. Крызысу ў двухбаковых дачыненьнях 2010 году спадарожнічала інфармацыйная вайна, паказ на НТВ тэлесэрыялу «Хросны бацька».

Чым цяперашні канфлікт адрозьніваецца ад папярэдніх? Найперш іншым гістарычным кантэкстам.

Па-першае, Расея рэзка ўзмацніла сілавы кампанэнт у сваёй замежнай палітыцы, што спарадзіла ўкраінскі крызыс, «халодную вайну» з Захадам.

Па-другое, Беларусь у гэтых канфліктах РФ са сьветам заняла пазыцыю нэўтралітэту.

Па-трэцяе, падзеньне сусьветных цэнаў на нафту пацягнула за сабой эканамічны крызыс у ЭАЭС, зьмяншэньне расейскага энэргетычнага гранту Беларусі.

Па-чацьвёртае, усё гэта супала з вострым крызысам беларускай сацыяльнай мадэлі.

Па-пятае, выбух шавіністычнай хвалі ў Расеі, на тле якой нэўтралітэт найбліжэйшага саюзьніка, ягонае пэўнае дыстанцыяваньне ад Масквы разглядаецца ў палітызаванай часткі расейскага грамадзтва як «бандэраўшчына».

Як гэта ўсё ўплывае на цяперашні беларуска-расейскі канфлікт?

Дзьве найбольш важныя высновы. Расейскія эканамічныя субсыдыі Беларусі сталі меншыя, а патрэбы Беларусі ў дапамозе ў сувязі з крызісам апынуліся большымі. Гэтыя супрацьлеглыя трэнды прыйшлі ў вострую супярэчнасьць. Што і вылілася ў жорсткую спрэчку пра цэны на газ.

Другі момант. Большая незалежнасьць Беларусі ад Расеі ў замежнай палітыцы (нармалізацыя стасункаў афіцыйнага Менску з Захадам, нэўтралітэт у канфліктах паміж РФ з ЗША і ЭЗ) адбываецца на фоне павялічэньня эканамічнай залежнасьці Беларусі ад усходняга суседа. Нагадаю, доля Расеі ў таварным экспарце Беларусі вырасла летась да 46%, хоць у 2015 годзе гэтая лічба складала 39%. Зноў два супрацьлеглых трэнды. Лягічна, што ў Крамлі палічылі, што моцна залежны саюзьнік павінен дэманстраваць лаяльнасьць. Бо некіраваны сатэліт — гэта нонсэнс.

І на нейкім этапе гэтыя аб'ектыўныя рознавэктарныя тэндэнцыі павінны былі выклікаць канфрантацыю ў двухбаковых дачыненьнях. Што мы цяпер і назіраем. Таму канфлікт і набывае такі зацяты характар, што ў ягонай аснове ляжаць аб'ектыўныя чыньнікі.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

ЗВАРОТ

# 5 ЦЫТАТ ЛУКАШЭНКІ З НАВАГОДНЯГА ЗВАРОТУ

**Аляксандар Лукашэнка традыцыйна павіншаваў беларусаў з Новым годам. Свабода выбрала 5 найбольш цікавых цытат Лукашэнкі са сьвяточнай прамовы.**

1. «Мы сталі закладнікамі»

Кажучы пра эканамічныя праблемы, Лукашэнка зрабіў акцэнт на тым, што яны былі выкліканыя крызысам у «нашых традыцыйных эканамічных партнэраў».

«Сувэрэнная і незалежная Беларусь апынулася ў эпіцэнтры сусьветных геапалітычных і эканамічных падзей. Мы жывём у адкрытай краіне і перш за ўсё таму сталі заложнікамі той эканамічнай сытуацыі, якая склалася ў нашых традыцыйных эканамічных партнэраў», — адзначыў ён.

2. «Мы, людзі ў пагонах, ведаем: порах трэба трымаць сухім»

Кажучы пра зьнешнія пагрозы, Лукашэнка назваў сябе чалавекам «у пагонах»: «Захаваць Беларусь астраўком стабільнасьці і спакою было няпроста. Але мы гэта зрабілі, забясьпечыўшы мір і бясьпеку грамадзян! Нашы суседзі, сябры, брацкія народы павінны ведаць, што зь беларускай зямлі ніколі ня будзе агрэсіі і пагроз. У той жа час мы, людзі ў пагонах, ведаем: порах трэба трымаць сухім. Абарона Айчыны — наш сьвяшчэнны абавязак!».

3. «Беларусь набывае ўсё больш сучаснае эўрапейскае аблічча»

Лукашэнка заявіў, што 2017 год «павінен стаць пераломным і даць магутны імпульс для разьвіцця краіны». Паводле яго слоў, стаўка будзе зроблена на стварэньне новых вытворчасьцяў і працоўных месцаў, актывізацыю бізнэсу.

«Мы ствараем новыя вытворчасьці, будуем дарогі, электрастанцыі, важныя сацыяльныя аб'екты і жылыя дамы. Добраўпарадкоўваем гарады і вёскі. З кожным годам Беларусь набывае ўсё больш сучаснае эўрапейскае аблічча», — падкрэсьліў ён.

4. «Мы ўжо ў надыходзячым годзе істотна павысім даходы грамадзян»

Лукашэнка паабяцаў у 2017 годзе істотна павысіць даходы беларусаў, хоць сярэдні заробак у 500 даляраў згаданы ня быў: «Узровень жыцьця народа павінен быць значна вышэйшым, чым сёньня. Дасягнуць гэтага няпроста. Аднак чаго б нам ні каштавала, мы ўжо ў надыходзячым годзе істотна павысім даходы грамадзян».

5. «Старэйшае пакаленьне шмат зрабіла для нашай краіны, але цяпер трэба рухацца далей»

Лукашэнка зрабіў акцэнт у сваёй прамове на асаблівым значэньні для Беларусі маладога пакаленьня: «Старэйшае пакаленьне шмат зрабіла для нашай краіны. І мы ўдзячны ім за гэта. Але цяпер трэба рухацца далей, укараняць у жыцьцё ўсё больш прагрэсіўнае і карыснае. А для гэтага трэба вучыцца, удасканальвацца, ісьці ў нагу з часам. Свае слова павінна сказаць наша моладзь, патрыятычная, неабыякавая да лёсу сваёй Радзімы. Сярод вас шмат здольных людзей».

**www.svaboda.org**

ПЕНСІЯНЕР І ПРАЦА

# «ПЭНСІЯНЭРАЎ, ЯКІЯ ПРАЦУЮЦЬ, У НАС УДВАЯ БОЛЬШ, ЧЫМ У ПОЛЬШЧЫ»

**Кожны чацьвёрты беларускі пэнсіянэр працягвае працаваць. Як гэта можа адбіцца на эканоміцы і рынку працы? Абмяркоўваюць Уладзімер Глод, Дзьмітры Гурневіч, Ігар Карней.**

Гурневіч: Паводле афіцыйнай статыстыкі, 25% беларусаў, то бок кожны чацьвёрты, пасьля выхаду на пэнсію застаецца працаваць. Гэта больш за 665 тысяч чалавек з агульнага ліку больш за 2,5 млн чалавек. Прычым за год гэты паказьнік павялічыўся прыблізна на 15 тысяч. Асабліва вялікая частка людзей застаецца ў галіне адукацыі і сацыяльнага абслугоўваньня.

Гэта ня дзіўна. Сярэдняя пэнсія ў Беларусі не дацягвае і да 150 даляраў. Раней казалі, што ў вёсцы за такія грошы яшчэ пражыць можна, а вось у горадзе — не. Раней дзяржаўная прапаганда сьцьвярджала, што пэнсіянэры краін Балтыі зайздросьцяць беларускім, маўляў, усё у іх таннае і пэнсія годная. Але ўсё хутка зьмянілася і сёньня беларускія пэнсіянэры ўжо ня ўзор.

Працаваць на пэнсіі — не загана. Чалавек добра сябе адчувае, хоча быць актыўным і гэта добра. Але давайце параўнаем беларускіх пэнсіянэраў, напрыклад, з польскімі. Там пасьля сыходу на заслужаны адпачынак працягвае працаваць 12% пэнсіянэраў. Гэта ў два разы менш, чым у нас. Сярэдняя велічыня пэнсіі ў Польшчы — амаль 400 даляраў. Розьніца і ва ўзроўні жыцьця, і ў падыходзе да жыцьця.

На думку эканамістаў, беларуская пэнсійная сыстэма — адна з самых неэфэктыўных ў сьвеце, і патрабуе карэнных зьменаў, заявіў у інтэрвію тэлеканалу Белсат эканаміст Леанід Заіка. Вось гэтыя 25% пэнсіянэраў на працы — гэта ўсяго толькі статыстыка ці нейкі небясьпечны званочак для эканомікі і дзяржавы?

Глод: Зразумела, што беларускія пэнсіянэры працуюць не ад добрага жыцьця. Вельмі ўсё дорага каштуе. Усё ж даражэе далей, літаральна штодня. Таму вялікая колькасьць пэнсіянэраў, нягледзячы на ўжо заслужаны адпачынак, працягвае працаваць, зарабляючы на больш-менш годнае жыцьцё. Паводле Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, у Беларусі працуюць прыкладна 665 тысяч асобаў пэнсійнага веку. Тут адметна, што яшчэ шэсьць гадоў таму такіх было амаль удвая менш. Бо тады пэнсіі былі больш важкімі.

Цяпер жа нават тыя пэнсіянэры, што знаходзяць яшчэ сілы працаваць, напэўна не пахваляцца заможным жыцьцём. Бо галіны, у якіх застаецца найбольш асобаў пэнсійнага ўзросту, — гэта адукацыя, сацыяльныя паслугі ды ахова здароўя. Гэта тыя, дзе найменшыя заробкі ў краіне.

А пэнсіянэры, якія жывуць на мінімальную пэнсію, могуць трапіць у катэгорыю тых асобаў, якія жывуць каля мяжы беднасьці ці ўжо за ёй. Зьмяншэньне пэнсіі ў тых, хто працягвае працаваць, экс-міністар працы і сацыяльнай абароны Аляксандр Сасноў лічыць цалкам верагодным. У краіне няма грошай, эканоміка не працуе, а праводзіць рэформы кіраўнікі ня хочуць праз боязь страціць уладу. Яны шукаюць любыя варыянты каб зэканоміць грошы. Таму дзіўна, што ходзяць чуткі толькі аб 40%. Я думаю, што могуць наагул перастаць плаціць пэнсію пэнсіянэрам, якія працуюць.

Карней: Уладзімер Уладзімеравіч Глод, уласна кажучы, якраз і ўяўляе прыклад працуючага пэнсіянэра і, пэўна, як ніхто ведае, ці рэальна паўнавартасна існаваць зь цяперашняй беларускай пэнсіі.

Калі Аляксандр Лукашэнка ініцыяваў непапулярнае рашэньне падвысіць пэнсійны ўзрост, у якасьці аргумэнту агучвалася наступная дылема: сыходзіць на заслужаны адпачынак раней, але грошай атрымліваць менш, ці пазьней, з захаваньнем не ніжэй за 40% ад сярэдняга заробку па краіне. Праўладныя аналітыкі пры гэтым адсылалі да лічбаў статыстыкі — маўляў, карані ў дэмаграфіі.

Цяпер у Беларусі на 100 працуючых прыходзіцца 61 пэнсіянэр. Паводле разьлікаў, у 2020 годзе суадносіны будуць ужо 100 да 66, а калі нічога не рабіць, то да 2030-га 100 працуючых павінны будуць утрымліваць 78 пэнсіянэраў. Падтрымліваць узровень пэнсій — задача ўсё больш складаная, бо, разводзяць рукамі дзяржаўныя эканамісты, у эканоміцы таксама ёсьць запас трываласьці. А павялічваць тарыфы адлічэньняў у Фонд сацыяльнай абароны — мера яшчэ больш непапулярная, чым пэнсійны ўзрост.

Нягледзячы на тое, што сёньня пэнсійныя сумы збольшага сымбалічныя і проста не даюць памерці з голаду, прыбыткі ў дзяржаўным сэктары імкліва набліжаюцца да тых ж самых 100-150 даляраў у эквіваленце. Маса прыкладаў, калі ў вёсках людзі зарабляюць удвая меней і для іх выхад не пэнсію — ледзь на адзіная магчымасьць мець невялікі, але стабільны прыбытак.

**Дзьмітры Гурневіч**
**"Радыё Свабода"**

ПРАБЛЕМЫ ЖКХ

# ГУЛЬНЯ Ў ЛІЧБЫ

**Улады Беларусі працягваюць стварэнне ўласнай віртуальнай рэальнасці. Але пры гэтым, падобна, не здагадваюцца, што такім чынам не толькі заганяюць сябе ў тупік, але і правакуюць сацыяльны выбух.**

Падавалася б, навошта перакручваць факты і лічбы? Усё роўна людзі ходзяць па крамах, бачаць лічбы ў сваіх жыроўках, атрымліваюць разліковыя лісты… Але ўсё роўна некаму хочацца выдаць пажаданае за дзейснае альбо «прычасаць лічбы пад сваю патрэбу».

Напачатку года гэтым, найперш, занялася любімая ЖКГ. Спрабуючы апраўдаць павышэнне тарыфаў на ацяпленне ў першыя ж дні новага года на 17%, на «партале камунальнай пісьменнасці насельніцтва» (во як загнулі!) прыведзены параўнальны аналіз, колькі плаціць за цяпло беларус, і колькі суседзі — Літва, Украіна, Расія. Паводле аўтараў ад ЖКГ, мы вельмі багатыя — плацім за цяпло толькі 11% ад заробку. Тады як у Літве кошт ацяплення складае 35% ад заробку, у Польшчы — 25%, у Расіі і Казахстане — 17%, а ва Украіне і ўсе 50%.

Але, калі чытаць удумліва і паспрабаваць праверыць лічбы, атрымліваецца нешта дзіўнае. «У сённяшні час беларус у сярэднім зарабляе 720 рублёў на месяц (дадзеныя афіцыйнай статыстыкі за кастрычнік), адпаведна, доля камунальных плацяжоў пасля падаражання складзе 11% ад сярэдняга заробку», — піша на «партале» gkx.by Яна Шчука. Між тым, дадзеныя афіцыйнай статыстыкі за кастрычнік кажуць, што намінальны налічаны заробак за кастрычнік, паводле Белстата, склаў у сярэднім па краіне 6 837 568 недэнамінаваных рублёў, то бок 684 рублі. І гэта налічаны, а не атрыманы заробак.

Пры гэтым Яна Шчука нават не тлумачыць, чаму заробак за кастрычнік параўноўваецца з цяперашнімі коштамі на ацяпленне. І гэта зразумела. Па тых жа дадзеных Белстата, налічаны заробак насельніцтва ўвесь год падаў, і за лістапад гэтае падзенне склала амаль 5%. Што, безумоўна, адаб'ецца на канчатковых «працэнтах за ацяпленне», а «парталу камунальнай пісьменнасці насельніцтва» тое цалкам не патрэбна.

У артыкуле яшчэ багата спрэчных высноў і тлумачэнняў. Але сам галоўны пасыл артыкула — гэта таксама прыём маніпуляцыі. Прыём вельмі стары, які нават паспеў надакучыць. Ну, хай сабе літоўцы плацяць за кватэру 35% заробку, а ўкраінцы 50%. І што? Мне што, павінна стаць цяплей ад таго, што нехта жыве ў іншай краіне і плаціць за камуналку больш? Выбачайце, але гэта — перакручаная логіка, якую нават логікай назваць цяжка. А дзе лічбы, колькі мы плацім за харчаванне?

Дарэчы, пра Белстат. Паводле гэтай канторы, інфляцыя ў Беларусі склала за год 10,6%. Некаторыя чыноўнікі ўжо паспелі заявіць, што яна набліжаецца да «адназначнага працэнту».

Працэнты — працэнтамі, але чаму мы не бачым гэтага ў крамах? Telegraf.by параўнаў пераднавагодні закупы прадуктамі на сэрвісе e-dostavka, зробленыя ў канцы снежня 2015 і 2016 гадоў. Смятана падаражэла на 46%, рыс — на 22%, макароны — на 21%, вараная кілбаса — на 18%, тварог — на 20%, квас — і той падаражэў на 46%. У інфляцыю амаль упісаўся батон, які падаражэў на 10,7%.

Пытанне — дзе існуе інфляцыя ў 10,6%? Пэўна, там жа, дзе і заробак у 720 рублёў, і «ўсім па піццот» у гэтым годзе.

Такім чынам, шараговы чалавек чытае справаздачы Белстату і ЖКГ пра тое, як у нас усё добра, а ў суседзяў дрэнна. А потым ідзе ў краму і ў яго адбываецца «разрыў шаблону». Калі ў нас усё добра, дык чаму ўсё так дорага? Зразумела, у яго ўзнікае злосць — за падман, за перакручванне фактаў. І глеба для сацыяльнага выбуху — гатовая.

…І галоўны паказчык таго, што будзе горш, — скарачэнне дзяржпадтрымкі тым самым прадпрыемствам, пра становішча якіх мы больш не даведаемся. Сёлета дзяржава вырашылі выдаць толькі 1,9 мільярда рублёў дырэктыўных крэдытаў. У мінулым годзе гэты ліміт быў устаноўлены на ўзроўні 2,8 мільярда рублёў. То бок, дзяржпадтрымка скарачаецца аж удвая!

Грошай няма. Трымайцеся.

*(скарочана)*

**Сяргей Салаўёў**
**«Новы час»**

ДЭМАГРАФІЯ

# ЧИНОВНИКИ ТАЩАТ БЕЛОРУСОВ В ПОСТЕЛЬ

**У населения Беларуси стали заметны черты так называемого «европейского» репродуктивного поведения. Беларусь нацелена на увеличение рождаемости. Реально ли это в краткосрочной перспективе с учетом экономических реалий и уменьшения числа женщин в детородном возрасте?**

**«Обеспечить воспроизводство населения»**

Цель правительства — увеличить средний суммарный коэффициент рождаемости с 1,72 до 2,0, сообщил на пресс-конференции в Минске заместитель министра труда и социальной защиты Александр Румак.

Средний суммарный коэффициент рождаемости в демографии считается определяющим и показывает, сколько детей в среднем родила бы женщина на протяжении всего репродуктивного периода (от 15 до 50 лет) при сохранении половозрастной рождаемости на уровне того года, для которого вычисляется показатель.

«Мы нацелены на увеличение этого коэффициента для того, чтобы обеспечить воспроизводство населения», — сказал Румак.

Он напомнил, что по итогам девяти месяцев 2016 года в Беларуси впервые за последние 20 лет зафиксирован естественный прирост населения — +518 человек.

«Это очень большое достижение, — отметил замминистра. — И такой прирост стал результатом социальной политики по поддержке материнства и семей с детьми, которая реализовывалась на протяжении последних лет».

Сегодня в стране 57% новорожденных — вторые и последующие дети, и этот процент растет, отметил замминистра. Семьи с двумя детьми сейчас составляют 28% среди всех семей с детьми.

**На европейском фоне**

В развитых странах при современном уровне смертности простое замещение поколений достигается при коэффициенте суммарной рождаемости, равном 2,1.

Меньше рожать детей — это не просто европейский, а мировой тренд. Коэффициент суммарной рождаемости населения мира в целом сократился с 4,95 в первой половине 1960-х годов до 2,67 в 2002 году. А в развитых странах в 2002 году этот показатель составлял 1,59. В настоящее время из всех развитых стран мира только в США показатель рождаемости составляет более двух детей на женщину.

По словам Александра Румака, сейчас средний коэффициент рождаемости в Беларуси выше, чем во многих европейских государствах.

Согласно данным электронного еженедельника «Демоскоп», самый низкий коэффициент в Португалии (1,23), а самый высокий — во Франции (2,01). Высокие значения коэффициента отмечаются в Ирландии (1,94), Швеции (1,88) и Великобритании (1,81). Крайне низкие значения суммарной рождаемости уже в течение многих лет отмечаются не только в Португалии, но и в Греции, Польше, Испании, Италии, Словакии, на Кипре и Мальте (менее 1,4 ребенка на женщину)…

**Второй ребенок важнее первого?**

Минтруда и соцзащиты планирует увеличить коэффициент за счет кардинального изменения политики планирования семьи, мотивации молодежи на создание семьи и рождение детей, формирования установок на более раннюю реализацию репродуктивной функции.

Говоря о соцподдержке семей, Александр Румак отметил господдержку многодетных семей в решении жилищных вопросов, изменение подходов при назначении пособий по уходу за детьми и их размера.

По словам замминистра, за два года реализации программы долгосрочной поддержки многодетных семей (семейный капитал) было открыто 28 824 депозитных счета на общую сумму более 288 млн долларов. По словам Румака, основная часть счетов — 17 242 — была открыта в 2016 году.

Очевидно, что в Беларуси активно поддерживают рождение вторых и третьих детей.

Помимо вышеупомянутого семейного капитала, который начисляется при рождении, усыновлении (удочерении) третьего или последующих детей в период с 1 января 2015 года по 31 декабря 2019 года, в стране есть другие преференции для тех, у кого больше одного ребенка.

Например, пособие при рождении первого ребенка — 10 величин бюджета прожиточного минимума, при рождении второго ребенка и последующих детей — 14.

Ежемесячное пособие на первого ребенка — 35% среднемесячной зарплаты в стране, на второго и последующих детей — 40%.

Не является ли такая политика демонстрацией ценности не каждого ребенка, а их количества? И не происходит ли так, что в результате откладываются рождения первых детей?

Что касается поддержки рождения вторых и третьих детей, Сергей Рязанцев считает, что, «обычно, первого ребенка семья рожает сама, без помощи государства». Это, по его словам, программа минимум, которая не зависит от поддержки государства.

Как считает Анастасия Боброва, сегодня многим семьям действительно проще решиться на второго ребенка, чем на первого.

«Особенно непросто завести первенца и резко снизить уровень своих доходов женщинам с высокой заработной платой, которую они теряют, когда уходят в отпуск по уходу за ребенком. Поэтому в поддержке семей необходимо ориентироваться и на тех, у кого появляется первый ребенок», — считает эксперт.

По ее мнению, «поддержка может быть не материальная, а в виде создания инфраструктуры для семей. Например, стоит активнее развивать возможности гибкой занятости, создавать систему яслей для детей до года».




Анастасия Боброва уверена, что принуждать население к рождению детей неправильно: «Если в стране будут созданы соответствующие экономические условия и качественная инфраструктура, в семьях и без уговоров чиновников будет появляться больше малышей».

*(скарочана)*

**Елена Спасюк**
**naviny.by**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 16.01.2017 у 18.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.